**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 25 (741) 19 чэрвеня 2014 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by



**Глыбокае, 13.06.2014. Урачыстае адкрыццё скульптурнай кампазіцыі, прысвечанай барону Мюнхгаўзену. Адкрывае "гаспадар горада" (са слоў вядучай) Алег Морхат.** *Фота Змітра Лупача.*

Мёрскі раён

# Возьмемся за белую бляху

■ Чэслаў Якубовіч

**Напрыканцы 2012 года Віцебскі аблвыканкам зацвердзіў праект пабудовы на тэрыторыі Мёрскага раёна новага завода па вытворчасці металічнага ліста і белай бляхі магутнасцю да 200 тысяч тон прадукцыі ў год.**

Патрэбны капітал у гэты імпартазамяшчальны праект абавязалася ўкласці фірма "ММЗП-Груп". Дагэтуль у гэтай сельскай мясцовасці буйной прамысловасці не было, за выключэннем хіба што мясакамбіната і былога запаснога аэрадрома авіяцыі савецкага Балтыйскага флота. І вось цяпер на дзяржаўным узроўні падтрымана гэта пачынанне, якое ўключылі ў Дзяржаўную праграму інавацыйнага развіцця да 2015 года. У пачатку лета А. Лукашэнка сваім указам № 271 зацвердзіў умовы і тэрміны рэалізацыі значнага інвестпраекта. У бліжэйшыя паўтара года ў вызначанай мясцовасці на тэрыторыі раёна павінны з'явіцца патрэбныя камунікацыі сувязі, сеткі энерга, газа і водазабеспячэння. Усяго новая металургічная вытворчасць створыць да 600 новых рабочых месц, а патрэбны будуць высокакваліфікаваныя спецыялісты-металургі. Да сярэдзіны лета 2016 года тут з'явяцца і патрэбныя пад'язныя шляхі і дарогі. Таксама вызначаны і фірмы, якія зробяць патрэбны праект для будучага завода і яго тэхналогій. Дагэтуль наша краіна падобную сыравіну для ўпакоўкі кансерваў, фарбы, аэразоляў, іншых тавараў з бляхі завозіла з-за мяжы, траціла валюту. Для мясцовай моладзі з'явіўся дадатковы шанц звязаць сваё будучае жыццё з працай на малой радзіме і толькі мясцовыя гаспадаркі могуць сутыкнуцца з адтокам кадраў на ствараемае буйное прадпрыемства для глыбінкі.

Полацкі раён

# Справа для моцных хлопцаў

■ Станіслаў Раманчук

**Ужо ў сярэдзіне мая на зборны пункт абласнога ваенкамата сталі прыбываць першыя прызыўнікі. Асаблівасцю гэтага прызыва стала адпраўка ўпершыню больш ста хлопцаў для службы ў рэзерве, а ўсяго ваенную форму адзелі амаль 1300 хлопцаў.**

Днямі 108 маладых людзей з іх прынялі воінскую прысягу і на базе вучэбнага пункта Полацкага пагранічнага атрада, размешчанага паблізу мястэчка Фарынава. Служба на граніцы дынамічная і патрабуе ад кожнага воіна ў зялёнай фуражцы добрай фізічнай формы, гібкасці розуму і здольнасці хутка прымаць правільныя рашэнні. Таму сюды прыйшлося адабраць на службу не толькі падыходзячых прызыўнікоў з Віцебшчыны, але і з суседніх Мінскай і Магілёўскай абласцей. Усе яны спачатку акрамя праходжання курса маладога байца пачалі вывучаць і спецыяльную падрыхтоўку на спецыяльнасці "інспектара-разведчыка". Аператыўная абстаноўка на дзяржаўнай граніцы хоць і спакойная, але зменлівая і вызначаецца ажыўленнем незаконнай міграцыі, спробамі арганізацыі транзітнай кантрабанды, перапраўкі наркотыкаў. Маладым пагранічнікам на тэрыторыі часці ва ўрачыстай абстаноўцы ўручылі баявую зброю і пазнаёмілі са сцягам часці. А вось навучаць іх спецыяльным навыкам прыбылі сюды лепшыя афіцэры і ваеннаслужачыя-кантрактнікі. Служба на граніцы адрозніваецца ад выканання аператыўна-службовых задач у іншых ваенных фарміраваннях краіны. У адпаведнасці з паказанымі пасля завяршэння курса вучобы вынікамі курсанты неўзабаве атрымаюць новыя прызначэнні на канкрэтныя ўчасткі граніцы. Яны стануць служыць там не толькі з аўтаматамі і сабакамі, але і з камп'ютарамі і іншымі складанымі тэхнічнымі прыборамі.

Пастаўскі раён

# На сенажацях – "тарнада"

■ Кастусь Александровіч

**Угэтым годзе надвор'е, як ніколі, выпрабоўвае хлебаробаў на трываласць, бо веснавыя замаразкі змяніліся частымі дажджамі падчас нарыхтоўкі кармоў.**

У такіх умовах не ўсё залежыць ад людзей для плённай працы ў полі, дзе рашаючае слова цяпер за сучаснай тэхнікай. У Пастаўскім раёне яшчэ напрыканцы мінулага стагоддзя ў тагачасным калгасе імя Суворава, цяпер ААТ "Навасёлкі-Лучай", сталі асвойваць лепшую амерыканскую і нямецкую сельскагаспадарчую тэхніку кампаній "Джон Дзір" і "Мерседэс". Тут і дагэтуль не шкадуюць сродкаў, каб мець лепшыя ўзоры замежных прэс-падборшчыкаў-абмотчыкаў "Тарнада" і іншых агрэгатаў для ўборкі траў. У выніку і сёлета гэта гаспадарка скасіла травы на трэцяй частцы адведзеных плошчаў, калі іншыя сельгаспрадпрыемствы краю толькі пачыналі працу на сенажацях. Механізатары з Навасёлак дабіліся высокай выпрацоўкі і стараліся нарыхтоўваць кармы ў прагрэсіўную стрэйчплёнку. Такім чынам яны на Пастаўшчыне працавалі і раней, стварылі багатую кармавую базу для свайго статку і для новай рабатызаванай фермы ў Коўзанах, першая чарга якой пачала ўжо дзейнічаць.Дзякуючы сучаснай корманарыхтоўчай тэхніцы ў гаспадарцы забяспечваюць высокую прадукцыйнасць працы, эканомяць грашовыя сродкі. Пры спрыяльным надвор'і за дзень ўдаецца спарадкаваць скошаныя травы на 100 гектарах. Аднак, у раёне сучаснымі прэсамі і граблямі-валкаўтваральнікамі забяспечаны лічаныя гаспадаркі "Хацілы-агра", "Кураполле-агра", філіял "Нафтаза-водмантаж". У большасці калгасаў тэмпы нарыхтоўкі кармоў былі марудныя, бо не хапала паліва і не ўся тэхніка была гатова для нарыхтоўкі кармоў.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 19.06.14 | | | | Пятніца 20.06.14 | | | | Субота 21.06.14 | | | | Нядзеля 22.06.14 | | | | Пн.23.06.14 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 02 | 08 | 14 | 20 | 02 | 08 | 14 | 20 | 02 | 08 | 14 | 20 | 02 | 08 | 14 | 20 | 02 | 08 | 14 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +13 | +18 | +21 | +18 | +15 | +15 | +15 | +16 | +12 | +14 | +15 | +14 | +12 | +13 | +16 | +15 | +12 | +14 | +16 |
| Ціск | 752 | 750 | 748 | 746 | 745 | 744 | 744 | 746 | 747 | 747 | 747 | 748 | 749 | 749 | 749 | 750 | 750 | 750 | 750 |
| Вільготнасць | 74 | 60 | 46 | 53 | 80 | 78 | 77 | 50 | 82 | 88 | 71 | 72 | 85 | 81 | 57 | 64 | 79 | 76 | 53 |
| Вецер м/сек | 4 Ю-З | 6 Ю-З | 7 З | 6 З | 5 З | 7 З | 6 С-З | 5 С-З | 2 Ю-З | 4 Ю-З | 6 З | 5 З | 4 З | 6 З | 7 З | 6 З | 4 З | 6 З | 8 З |

# Аб самым надзённым

## ДЗЯРЖАЎНЫ ДОЎГ БЕЛАРУСІ ПРАЦЯГВАЕ РАСЦІ РАЗАМ З ПАВЕЛІЧЭННЕМ НЕПРАДАДЗЕНЫХ СКЛАДСКІХ ЗАПАСАЎ

■ Аляксандр Цішкевіч

**У цэлым жа становішча большасці беларускіх заводаў і фабрык па-ранейшым няпростае. У мінулым годзе назіраўся нават спад прамысловай вытворчасці, які прадоўжыўся і сёлета. Пасля заканчэння ацяпляльнага сезона ўвогуле здарыўся абвал вытворчасці ў красавіку адразу на 7,7 %. Ад сталіцы да малых гарадкоў склады прадпрыемстваў завалены цяпер не толькі айчыннымі трактарамі і грузавікамі, але і адзеннем, абуткам, мэбляй, тэлевізарамі, сырамі, іншымі прадуктамі.**

У паўсядзённым жыцці апошнім часам чамусьці прыемных навін не так і шмат. Праўда, з 9 чэрвеня пасля пэўнага перапынку "АСБ Беларусбанк" аднавіў выдачу крэдытаў на набыццё жыллёвых памяшканняў на 15 гадоў з выплатай 37,5 % гадавых. У беларускай сталіцы адкрылі новую станцыю метро ў Малінаўцы. Хапіла там усім і беларускага піва падчас нядаўніх баталій хакейнага першынства свету, хоць з шашлыкамі намецілася пэўная напружанасць у рэгіёнах, дзе прыкметна зменшыліся мясныя паліцы крам, а цэны на мяса птушкі наадварот павысіліся.

Таксама замежныя ў асноўным госці на тым чэмпіянаце пакінулі ў абменніках амаль 100 млн. долараў. А вось самі беларусы не ўпэўнены ў моцы нацыянальнай валюты і ў маі купілі ў банках 794, 4 млн. USD на свае надзённыя праблемы напярэдадні сезона масавых водпускаў. Дарэчы, другі год запар у айчыннай эканоміцы назіраюцца таксама сур'ёзныя праблемы і звязана гэта з уступленнем асноўнага гандлёвага партнёра Расіі ў СГА. На расійскія прасторы спрацііўся доступ тавараў з трэціх краін і адпаведна для нашай прадукцыі вырасла канкурэнцыя.

А таму і не дзіўна, што прыбавілася цяжкасцей у беларускіх вытворцаў. Невыпадкова ж глава ўрада Беларусі М. Мясніковіч 20 мая прызнаўся, што "традыцыйная мадэль развіцця прамысловага комплексу вычарпала сябе". І як вынік, па дадзеных Міністэрства фінансаў РБ, дзяржаўны доўг нашай краіны ў студзені-красавіку сёлета вырас яшчэ на 2,5 % і дасягнуў астранамічнай сумы – 157,8 трыльёнаў рублёў. Дзе толькі можна, працягвае дзяржава браць крэдыты каб узводзіць тую ж Беларускую АЭС у Астраўцы, падтрымліваць золатавалютныя рэзервы, забяспечваць важнейшы імпарт.

У цэлым жа становішча большасці беларускіх заводаў і фабрык па-ранейшым няпростае. У мінулым годзе назіраўся нават спад прамысловай вытворчасці, які прадоўжыўся і сёлета. Пасля заканчэння ацяпляльнага сезона ўвогуле здарыўся абвал вытворчасці ў красавіку адразу на 7,7 %. Ад сталіцы да малых гарадкоў склады прадпрыемстваў завалены цяпер не толькі айчыннымі трактарамі і грузавікамі, але і адзеннем, абуткам, мэбляй, тэлевізарамі, сырамі, іншымі прадуктамі. Цяжкасці з рэалізацыяй сваёй прадукцыі цяпер хто толькі не адчувае.

Да прыкладу, ранейшы флагман лёгкай прамысловасці віцебскае ААТ "КІМ" летась завяршыў год са стратамі 39 млрд. рублёў. На сталічным ААТ "Камволь" нават пасля візіту главы дзяржавы істотна нічога не змянілася ў лепшы бок: новыя гадавыя страты дасягнулі мінус 20 млрд. рублёў. Шчыра кажучы, як ратаваць такія стратныя вытворчасці, нічога новага ўпраўленцы не прыдумалі. Той жа "КІМ" спачатку думалі далучыць да новага трыкатажнага холдынга, а потым загадалі ўзяць праблемную фабрыку больш паспяхому суседу "Белвесту".

У машынабудаванні надзея на новы 13 па ліку холдынг "МТЗ-Холдынг" з упраўляючай кампаніяй на базе трактарнага завода ў Мінксу, да якога далучылі яшчэ 9 прадпрыемстваў Мінпрама з глыбінкі. Праўда, нават той жа М. Мясніковіч вымушаны прызнаць, што гэтыя холдынгі рэальна пакуль яшчэ не запрацавалі, мала карысці ад такога механічнага аб'яднання. Чарговы лозунг "Купляйце беларускае!" таксама вырашылі падмацаваць чыста механічным спосабам: усё болей забараняць продаж тавараў замежнай вытворчасці. Вось ужо украінскае піва не прабіла бар'ер беларускага ліцэнзавання.

Дзяржстандарт "забракаваў" раптам некаторыя мадэлі халадзільнікаў "Індэзіт" расійскай зборкі. Можна чакаць, што забракоўваць у далейшым і кітайскія розныя тавары, турэцкі і іншы замежны трыкатаж нават з расійскімі сертыфікатамі адпаведнасці патрабаванняў тэхрэгламенту Мытнага саюза. Мала якіх спосабаў у чыноўнікаў пад рукамі, якія так быццам "клапоцяцца" аб нас, бедных спажыўцах. У гэтым рэчышчы і забарона індывідуальным прадпрымальнікам гандляваць на рынках без адпаведных суправаджальных дакументаў на завезеныя з-за граніцы тавары.

Аднак увядзеннем розных ліцэнзій і забарон праблему не вырашыш, бо ў пачатку мая, напрыклад, беларускага абутку на складах было ў 3,6 разы болей, чым усе абутковыя фабрыкі выпрабляюць за месяц. Такая ж сітуацыя і з айчынным адзеннем, якое чамусьці значна даражэй, чым выраблена за мяжой. Праблема, відавочна, у тым, што абсталяванне на многіх нашых заводах і фабрыках састарэлае, энергаёмкія састарэлыя тэхналогіі і вялізныя іншыя затраты, малая прадукцыйнасць працы. Таму беларуская прадукцыя не паспявае да хуткіх змен на рынках свету, прайграе канкурэнтную барацьбу і штогод перажывае цяжкасці з рэалізацыяй выраблена прадукцыі.

## Дзень за днём

**З 1-га ліпеня ў краіне могуць спыніцца і страціць працу на рынках да 80 тысяч прадпрымальнікаў. Міністэрства сельскага харчавання Беларусі паабяцала аднавіць пагалоўе свіней да 2015 года, на фоне недахопу свініны ў 3 разы вырас попыт на мяса птушкі. З-за АЧС і ўведзенага каранціна краіна страціла амаль 700 тысяч галоў свіней, іх мяса збіраюцца завозіць з Канады. Праваслаўныя і каталіцкія іерархі заклікалі ўлады Беларусі адмяніць смяротнае пакаранне. Курсантаў, адлічаных з ваенных ВНУ і афіцэраў, не даслужыўшых па кантрактах, абавязалі вярнуць расходы на іх навучанне. Толькі чвэрць абітурыентаў выбралі сёлета на ЦТ беларускую мову.**

# Важнейшыя навіны свету

**Польшча.** Прэзідэнт ЗША Барак Абама асудзіў "цёмную тактыку і агрэсію" Расіі на ўсходзе Украіны, далейшыя правакацыі Масквы там яшчэ болей ізалююць РФ ад свету.

**Балгарыя.** Прэм'ер-міністр Пламен Арэшарскі па ўзгадненні з ЕС распарадзіўся прыпыніць работы па будаўніцтве газаправода "Паўднёвы паток" магутнасцю 63 млрд м3.

**Германія.** Калія Расія прадоўжыць эскалацыю канфлікту ва Украіне, як заявіла канцлер А. Меркель, то мы без ваганняў выкарыстаем супраць РФ дадатковыя жорсткія санкцыі.

**Францыя.** Дэлегацыя Расіі адмовілася ад удзелу ў чэрвеньскай сесіі Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы, раней рускіх пазбавілі ў ПАСЕ права голасу за агрэсію ў Крыме.

**Сірыя.** Значная частка сірыйцаў не прызнала перамогу дзеючага дыктатара-прэзідэнта Б. Асада на выбарах, не бачна тут і канца грамадзянскай вайны, у краіне 2,5 мільёна бежанцаў.

**Украіна.** Генпракуратура краіны завяла супраць экс-прэзідэнта В. Януковіча і яго прыбліжаных асоб крымінальную справу за ўдзел у арганізацыі передачы Крыма Расіі.

**Швейцарыя.** Па распараджэнні пракуратуры краіны заблакіравалі 137 млн. еўра, знойдзеных на рахунках беглага прэзідэнта Украіны В. Януковіча і яго-ных паплечнікаў.

**Літва.** Еўракамісія рэкамендавала Савету міністраў дзяржаў ЕС прыняць краіну ў зону еўра з 1 студзеня 2015 года, літоўцы стануць 19-м членам еўразоны ўслед за Латвіяй.

**Украіна.** У акупіраванага РФ Крыма, як заявіў глава МЗС Польшчы Р. Сікорскі, змрочныя перспектывы з-за непрызнання ў свеце, у Крамля няма 30 млрд. $ на праблемы крымчан.

**Казахстан.** З удзелам прэзідэнта Н. Назарбаева ў горадзе Кастанаі ўрачыста запусцілі сучасны аўтазавод поўнага цыкла зборкі легкавых машын японскага аўтагіганта "Тайота".

**КНДР.** З-за хранічнага недахопу харчавання ўлады скарацілі норму харчпайка да 410 грам на чалавека ў дзень, асабліва цяжкае становішча ў правінцыі, дзе людзі галадаюць.

**Бразілія.** Былы амерыканскі агент, праграміст АНБ ЗША Эдвард Сноўдэн звярнуўся да ўлад краіны з просьбай прадаставіць палітычны прытулак, у Расіі ён жыць не жадае.

**Англія.** Адносіны да Расіі ў свеце сур'ёзна пагоршыліся за апошні год, як паказалі даследванні сацыёлагаў у 24 краінах, праведзеныя па заказу Сусветнай службы Бі-бі-сі.

**ЗША.** Вучоныя астраномы краіны знайшлі ў аддаленым сузор'і гіганцкага двайніка зямлі – скалістую планету, большую ў 3 разы, на ёй патэнцыйна можа існаваць біялагічнае жыццё.

**Іспанія.** Дзясяткі тысяч іспанцаў выйшлі на вуліцы больш чым 60 гарадоў краіны з патрабаваннем правесці нацыянальны рэферэндум аб будучым каралеўскай манархіі.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** З пачатку года надоі на карову ў РБ зменшыліся яшчэ на 4,1 %, у студзені-красавіку атрымалі меней 30 тысяч тон мяса і амаль 29 тысяч-тон малака, чым год назад.

**Салігорск.** Гендырэктар "Беларуськалія" В. Кірыенка пацвердзіў, што няма патрэбы стварэння сумеснай з "Уралкаліем" трэйдарскай кампаніі, бо БКК працуе эфектыўна.

**Бабруйск.** На аэрадроме 83-га асобнага інжынерна-аэрадромнага палка развіталіся з расійскімі лётчыкамі, звяно самалётаў-знішчальнікаў РФ пакінула і базу ў Баранавічах.

**Мінск.** Да прэзідэнцкіх выбараў 2015 года, як заявіў палітолаг С. Нікалюк, эканамічнай катастрофы ў Беларусі, хутчэй усяго, не будзе, бо Расія дапаможа ўладам субсідыямі.

**Гомель.** Прэзідэнт РБ папярэдзіў главу вобласці У. Дворніка аб няпоўнай службовай адпаведнасці, за злоўжыванні ў канцы мая была арыштаваны адразу два яго намеснікі.

**Мінск.** На 24-ю міжнародную выставу "Белагра-2014" МАЗ прадставіў сваю навінку – снегабалотаход для язды па бездарожжы, распрацаваную сумесна з кампаніяй MAN.

**Гродна.** Расійская кампанія "Еўрахім" першай пацвердзіла свой удзел у конкурсе для выбару інвестара па прыватызацыі ААТ "Гродна Азот", але ў яе мала газавых актываў.

**Смілавічы.** Вечарам у гарпасёлку рухнула дзеючая воданапорная вежа, пабудаваная 43 гады назад, без вады засталіся больш 100 дамоў, каледж, сярэдняя школа і 2 садзікі.

**Мінск.** Віцэ-прэм'ер урада Беларусі А. Тозік прапанаваў звольніць 42 тысячы настаўнікаў, краіне патрэбна мець іх толькі 80 тысяч, захаваць фонд зарплаты і так падняць заробкі.

**Мсціслаўль.** Міліцыя затрымала 43-гадовага жыхара райцэнтра, які на глебе рэўнасці да былой жонкі, падпаліў уласны дом, які яны збіраліся дзяліць з нажытай маёмасцю.

**Мінск.** Сусед гаспадара аграсядзібы ў вёсцы Бучэвічы атрымаў моцныя апёкі цела, але выратаваў 10 коней, калі ноччу загарэлася невядома ад чаго стайня, двое жывёл загінулі.

**Валожын.** Невядомы злачынца падабраў ключ і пранік ноччу ў касцёл св. Тройцы ў вёсцы Забрэззе, адкуль з сейфа ўкраў сабраных вернікамі 7 млн. рублёў, 550 долараў і 50 еўра.

**Мінск.** Калектыў МАЗа засмуціла, што выпуск сваіх грузавікоў у Расіі пачынаюць сёлета канкурэнты – індыйскі гігант Tata Motors, пад Санкт-Пецербургам кампанія MAN.

**Мядзель.** На тэрыторыі Смаленскай і Маскоўскай абласцей Расіі затрымалі сем цяжкіх падлеткаў, якія ўцяклі са спецвучылішча турэмнага тыпу ў гарпасёлку Крывічы.

**Мінск.** Дзяржстандарт Беларусі выдаў распараджэнне аб забароне продажу ў гандлі чатырох мадэляў халадзільнікаў маркі "Indesit", выраблены на расійскім заводзе Ліпецка.

# Нацбанк Беларусі зацвердзіў тэрміны пераходу на мікрапрацэсарныя карткі




■ БелаПАН

**Нацыянальны банк Беларусі зацвердзіў тэрміны пераходу на мікрапрацэсарныя карткі. Гэта прадугледжана пастановай праўлення галоўнага банка краіны № 343 ад 26 мая «Аб пытаннях бяспекі абарачэння банкаўскіх плацежных картак і функцыянавання аб'ектаў праграмна-тэхнічнай інфраструктуры».**

Згодна з дакументам, беларускія банкі з 1 ліпеня 2015 года пачнуць выпускаць у абарачэнне банкаўскія плацежныя карткі плацежнай сістэмы «Белкарт», якія выкарыстоўваюцца на тэрыторыі Беларусі і за яе межамі, а таксама банкаўскія плацежныя карткі міжнародных плацежных сістэм Visa і MasterCard з магнітнай паласой і мікрапрацэсарам стандарту EMV або мікрапрацэсарам стандарту EMV.

З названай даты прыём такіх чыпавых карт павінен быць забяспечаны ва ўсіх плацежных тэрміналах, што зноў ўстанаўліваюцца, у арганізацыях гандлю і сэрвісу.

З 1 студзеня 2017 года патрабаванне будзе распаўсюджвацца і на карткі плацежнай сістэмы «Белкарт», якія выкарыстоўваюцца толькі ўнутры краіны. Яны таксама павінны быць аснашчаны магнітнай паласой і мікрапрацэсарам стандарту EMV або мікрапрацэсарам стандарту EMV. З 1 студзеня 2017 года чыпавыя карты павінны прымаць ва ўсіх плацежных тэрміналах у арганізацыях гандлю і сэрвісу і банкаматах.

З 1 студзеня 2022 года не дапускаецца выкарыстанне на тэрыторыі Беларусі банкаўскіх плацежных картак без мікрапрацэсара стандарту EMV, эмітаваных банкамі краіны.

Раней намеснік старшыні праўлення Нацбанка Сяргей Дубкоў паведаміў, чым тлумачыцца такі доўгі тэрмін. «Памяняць стандарты, прыняць адпаведнае рашэнне — гэта, напэўна, самае простае дзеянне. Галоўнае, каб была гатова інфраструктура, праграмныя рашэнні і карыстальнікі», — адзначаў прадстаўнік Нацбанка.

«Гэты рух характэрны для ўсіх краін, дзе актыўна выкарыстоўваюцца банкаўскія плацежныя карткі. Гэта звязана з тым, што чыпавыя карты з'яўляюцца найбольш абароненымі», — падкрэсліваў Дубкоў, звяртаючы ўвагу, што ў Расіі фінансавыя ўлады пайшлі на яшчэ больш жорсткія меры ў частцы адмовы ад выкарыстання картак з магнітнай паласой.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** З-за частых праліўных дажджоў і нізкай гатоўнасці тэхнікі вобласць горш усіх у краіне працуе на нарыхтоўцы кармоў, не выконваюцца шмат дзе заданні па касьбе траў.

**Наваполацк**. У чацвёрку самых паспяховых айчынных кампаній па выніках працы ў мінулым годзе зноў увайшоў "Нафтан", яго чысты прыбытак у 2013 годзе склаў 142 мільёны долараў.

**Лепель.** Па рашэнні ўрада Беларусі два мясцовыя заводы – рамонтна-механічны і электрамеханічны ўвайшлі ў склад новага холдынга на базе сталічнага МТЗ.

**Віцебск.** На Смаленскім рынку і ў гандлёвым цэнтры "Эвіком" было бязлюдна, так сталі пратэставаць супраць новага тэхрэгламенту прадпрымальнікі, гандляры прамысловых тавараў.

**Паставы.** На калегіі Міністэрства аховы здароўя РБ мясцовай райбальніцы ўручылі дыплом лепшай ЦРБ Беларусі ў групе малых гарадоў па аказанні медыцынскай дапамогі людзям.

**Гарадок.** Пасол добрай волі, жонка прэм'ер-міністра Венгрыі Аніка Леваі паабяцала выдзеліць 250 тыс. еўра на стварэнне цэнтра рэабілітацыі былых вязняў у кляштары.

**Віцебск.** У парадку эксперымента мясцовы ўнівермаг адкрыў на першым паверсе секцыю брэндавага адзення "Mark Formelle", на чарзе магазін гаспадарчых тавараў і кафейня.

**Глыбокае.** Да Сусветнага дня аховы акружаючага асяроддзя ў райцэнтры адкрылі новы палігон цвёрдых бытавых адыходаў, ад смецця ачысцілі парк Перамогі, вадаёмы.

**Браслаў.** Жыхароў горада парадавала ўстаноўка трох драўляных скульптур кароў, якія сталі "пасвіцца" на зялёным лужку па суседстве з абноўленым аўтавакзалам ля возера.

**Лынтупы.** На мясцовым спрошчаным пагранпераходзе з Літвой альбо на суседнім Мольдзевічы-Адуцішкіс можа з'явіцца новы аўтадарожны пункт пропуску з ЕС.

**Наваполацк.** Следчы камітэт РБ распачаў крымінальную справу супраць дырэктара дзяржаўтапрадпрыемства, які адпраўляў родных на адпачынак за кошт аўтапарка.

**Віцебск.** У летнім раскладзе руху цягнікоў з'явіўся новы поезд межрэгіянальных ліній эканом-класа да Магілёва, увялі дадатковы летні дызель да Шуміліна і хуткі да Мінска.

**Орша.** Суд пакараў двух жыхароў горада 7 і 10 гадамі зняволення за нападзенне ў навагоднюю ноч на таксіста і ўгон яго машыны ў Смаленск, дзе іх затрымала паліцыя РФ.

**Гарадок.** У рэанімацыю трапіў 54-гадовы механізатар, яго трактар перакуліўся на трасе днём на Віцебск пасля ўдару ў выніку сутыкнення дзвюх іншамарак пры абгоне.

**Віцебск.** Пры пад'ездзе да горада ў цягніку Днепрапятроўск-Санкт-Пецербург 50-гадовы п'яны гамяльчанін з нажом напаў на двух украінцаў, яму пагражае да 10 гадоў турмы.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# 22 чэрвеня нам аб'явілі,


1941 год. Немцы наступаюць на Дзісну.


22 чэрвеня 1941 года. Савецкі аэрадром пасля бамбёжкі.

*…Прошлое всегда с нами, и всё, что мы собой представляем, всё, что мы имеем, исходит из прошлого. Мы его творение, и мы живём, погружённые в него. Не понимать этого и не ощущать прошлое – значит, не понимать настоящее.*

*Д. Неру*

**Прайшло ўжо 73 гады з пачатку Вялікай Айчыннай вайны, і пара ўжо на яе першыя дні і месяцы паглядзець і ацаніць становішча такім, якім яно было насамрэч. Буйныя правалы Чырвонай Арміі на працягу ўсяго фронту ваенных дзеянняў мы імкнёмся растлумачыць тым, што Германія лепш падрыхтавалася да вайны і шматкроць пераўзыходзіла Чырвоную Армію ва ўсіх адносінах. Ці так гэта на самай справе?**



■ **Фадзей Шымуковіч,** *настаўнік-пенсіянер, краязнаўца, г. Дзісна.*

У той жа час мы не раскрываем сакрэт, што пачынаючы з 1929 года і па 1932 год на многіх прадпрыемствах Савецкага Саюза тайна былі размешчаны ваенныя нямецкія заказы. У нашай краіне на нямецкім абсталяванні і з дапамогай нямецкіх спецыялістаў выпускаліся танкі, самалёты, артылерыйскія гарматы для Германіі. Германскія ваеннаслужачыя аваладвалі ваеннай тэхнікай на савецкіх палігонах і аэрадромах, недаступных кантролю версальскай сістэмы. З другога боку, дзякуючы нямецкай дапамозе, СССР змог адносна хутка забяспечываць сваё Узброеныя сілы сучаснай ваеннай тэхнікай, пераўзбройваць ваенную прамысловасць неабходным абсталяваннем. Але і Германія, дзякуючы такому дагавору, значна ўмацавала свой ваенны патэнцыял, у выніку чаго Гітлер у вельмі кароткі час змог стварыць масавую армію, маючы і неабходную тэхніку, і падрыхтаваныя кадры. Вось гэтая армія спачатку пакарыла больш паловы Заходняй Еўропы і пайшла вайной на СССР. Нездарма ж Гудэрыян заканчваў танкавае вучылішча ў СССР. Палка аказалася аб двух канцах.

Сухапутныя войскі Германіі, уключаючы войскі СС, налічвалі 3млн.300тысяч чалавек. ВПС – 1млн.200тысяч, ВМФ – 100 тысяч. Разам – 4млн.600 тысяч. Яны былі зведзены ў 3 групы армій, якія складаліся з 9 палявых армій, 4 танкавых груп (армій), 4 паветраных флатоў. Складаліся з 119 пяхотных дывізій, 19 танкавых дывізій, 14 матарызаваных дывізій і 2 асобных брыгад. На ўзбраенні мелася 42 тысячы гармат і мінамётаў рознага калібру, 4000 танкаў сярэдніх (Т-II і Т-III), 4000 баявых самалётаў (знішчальнікаў, бамбавікоў, выведнікаў і спецыяльнага прызначэння), 192 баявыя караблі рознага прызначэння (Гісторыя 2-й Сусветнай вайны, Т.3, стар.328).

Напярэдадні вайны ў пагранічных акругах, а агульнага немалога ліку злучэнняў – 170 дывізій і 2 брыгад – 19 дывізій былі ўкамплектаваны да 5-6 тысяч, 7 кавалерыйскіх дывізій у сярэднім па 6 тысяч чалавек, 144 дывізіі мелі колькасць па 8-9 тысяч чалавек. Што да бронетанкавых войскаў, то Заходнія акругі мелі каля 10 тысяч адзінак. Большасць з іх былі лёгкія і сярэднія састарэлыя машыны, з бензінавымі рухавікамі, якія гарэлі пры пападанні ў маторнае аддзяленне кулі, або асколка. Хоць сярэднія "Бэтэвушкі", узброеныя 45 мм гарматамі, паспяхова вялі баі з нямецкімі сярэднімі танкамі Т-II і Т-III, якія таксама мелі бензінавыя рухавікі.

Са студзеня 1939 года па 22 чэрвеня 1941 года Чырвоная Армія атрымала больш за 7 тысяч танкаў. У 1941 годзе прамысловасць ужо магла даць 5,5 тыс. танкаў усіх відаў. Сталі паступаць новыя мадэфікацыі танкаў – сярэдні Т-34 і цяжкі КВ, узброеныя 76мм гарматамі. Гэта былі лепшыя танкі таго часу ў сусветным маштабе. Перад вайной армія іх атрымала 1861 танк.

У 1939, 1940 і першай палове 1941 года войскі атрымалі больш за 105 тысяч ручных і станкавых кулямётаў, каля 85 тысяч аўтаматаў. Замест 37мм супрацьтанкавай гарматы сталі выпускаць 45мм, масай усяго 560кг, на гумовых колах, разлік з 5 чалавек мог лёгка і хутка мяняць пазіцыю. Бранябойны снарад масай 1,4кг на адлегласці 1км прабіваў браню, у тым ліку і лабавую сярэдніх танкаў. Да пачатку вайны іх у войскі паступіла 12000 гармат. Так што нямецкія танкі было чым сустракаць. З 1 студзеня 1939 года да пачатку вайны войскі атрымалі 92578 гармат і мінамётаў розных калібраў.

З 1 студзеня 1939 года да 22 чэрвеня 1941 года Чырвоная Армія атрымала ад прамысловасці 17745 баявых самалётаў, з іх 3719 новых тыпаў.

Адны сцвярджаюць, што нямецкай разведцы ўдалося шляхам хітра прадуманай правакацыі рукамі НКВД часткова абязглавіць Чырвоную Армію, другія – што гэта звычайная з'ява таго гістарычнага часу, калі быў агульны разгул рэпрэсій. Так ці інакш, але Чырвоная Армія страціла самы лепшы камандны склад сярэдняга і вышэйшага камандніга складу. У 1930 годзе была праведзена аперацыя "Вясна" пад кіраўніцтвам галавы АДПУ Мянжынскага, у ходзе якой былі арыштаваны і падвергнуты рэпрэсіўным дзеянням былыя царскія афіцэры, якія перайшлі на службу ў Чырвоную Армію. Было страчана больш 5 тысяч высокакваліфікаваных ваенных спецыялістаў.


1941 год. Немцы наступаюць на Дзісну.

У 1937-1938 гадах амаль пагалоўна знішчылі вышэйшы камандны склад арміі. Згодна праведзенага даследавання генерал-лейтэнанта Тадароўскага, адносна колькасці рэпрэсаваных сярод вышэйшага каманднага складу Чырвонай арміі з пяці Маршалаў Савецкага Саюза загінулі трое (Тухачэўскі, Блюхер, Ягораў), з пяці камандармаў 1-га рангу – трое, з дзесяці камандармаў 2-га рангу – усе дзесяць, з 57 камкораў – 50, з 186 камдзіваў – 154, з 16 камісараў 1-га і 2-га рангаў – усе 16, з 28 карпусных камісараў – 25, з 64 дывізійных камісараў – 58, з 456 палкоўнікаў – 401. Іншымі словамі, у гэты перыяд армія страціла каля 40 тысяч камандзнага складу. Летам 1940 года на зборах камандзіраў палкоў Чырвонай Арміі з 225 чалавек ні адзін не меў акадэмічнай адукацыі. 200 чалавек заканчвалі курсы малодшых лейтэнантаў і толькі 25 ваенныя вучылішчы.

Перад самым пачаткам вайны суадносіна ўзброеных сіл Заходняй Асабовай ваеннай акругі (Беларусь) і нямецкай групы армій "Цэнтр" былі такімі:

| | Дывізій | Асабовы склад | Гармат | Танкаў | Самалётаў |
|---|---|---|---|---|---|
| ЗАВА | 55 | 672000 | 10087 | 2502 | 1909 |
| "Цэнтр" | 47 | 820000 | 10763 | 1177 | 1468 |

Дыслакацыя нашых войск. 4-я армія пад камандаваннем генерал-маёра Карабкова размяшчалася ў раёне Брэста і Брэсцкай крэпасці. 10-я армія, камандуючы генерал-маёр Голубеў, займала пазіцыі ў цэнтры Беластоцкага выступа. 3-я армія, камандуючы генерал-лейтэнант Кузняцоў, займала абарону ў раёне Гродна. 13-я армія знаходзілася ў другім эшалоне.

22 чэрвеня 1941 года ў 4 гадзіны раніцы без аб'яўлення вайны фашысцкая Германія напала на Савецкі Саюз. У паветра была паднята ўся бамбардзіровачная авіяцыя, якая нанесла бомбавыя ўдары па стратэгічных аб'ектах: чыгуначных вузлах, месцах размяшчэння асабовага складу, ваеннай тэхнікі і ўзбраення. Асаблівай увагі заслужылі аэрадромы. Так, у Заходняй Асабовай ваеннай акрузе бомбаваму ўдару падвергліся 26 аэрадромаў, Кіеўскай Асабовай акрузе – 23, Адэскай – 8. Толькі на аэрадромах было знішчана 1200 самалётаў, у іх ліку ў Заходняй акрузе (Беларусь) 738 самалётаў.

Адначасова па ўсёй граніцы былі атакаваны нашы войскі. На левым крыле Заходняга фронту ў паласе абароны 4-й арміі генерала Карабкова пад ударамі 2-й нямецкай танкавай групы (арміі), якой камандаваў Гудэрыян, які добра ведаў тэатр ваенных дзеянняў яшчэ па 1939 годзе, лінія абароны была прарвана, і танкавыя карпусы немцаў пачалі наступленне. У гэты ж дзень горад Брэст быў заняты часцямі нямецкай 9-й арміі. У Брэсцкай крэпасці, як у лавушцы, аказаліся запёртымі нашы 6-я і 42-я стралковыя дывізіі. Адзіны выхад з крэпасці ва ўсходнім напрамку вельмі абцяжарваў выхад з крэпасці такой колькасці войск з цяжкім узбраеннем. Немцы вялі пастаянны абстрэл выходзіўшых войск з артылерыі і мінамётаў. Дывізіі неслі вялікія страты. Спешна арганізаваная контратака 14-м мехкорпусам 23 чэрвеня поспеху не мела. 4-я армія, раздзеленая часцямі 2-й танкавай арміі Гудэрыяна, вымушана была з баямі адыходзіць паўночней Прыпяці на Пінск і Слуцк.

На правым крыле Заходняга фронту часці 3-й арміі генерал-лейтэнанта Кузняцова была атакавана 3-й танкавай арміяй генерала Гота. 23 чэрвеня немцы захапілі Гродна і пачалі наступленне на Сувалкі. Контрудар і тут не прынёс поспеху. 6-ы і 11-ы мехкорпусы ў самы разгар баёў засталіся без паліва і боепрыпасаў. Яны не вытрымалі ўдараў нямецкіх войск, падтрыманых танкамі і авіяцыяй, і вымушаны былі, пакідаючы тэхніку і цяжкае ўзбраенне, сумесна з часцямі 3-й арміі адступаць у паўднёва-ўсходнім і ўсходнім напрамках у бок Налібоцкай пушчы, на Навагрудак. Утварыўся вялікі разрыў паміж флангамі Заходняга і Паўночна-Заходняга франтоў. На зыходзе 4-га дня вайны, як на правым, так і на левым крыле Заходняга фронту, нямецкія танкавыя злучэнні прасунуліся ўглыб нашай абароны на 200км. У выніку двухбаковага абхвату праціўнікам галоўных сіл Заходняга фронту склалася пагроза іх поўнага акружэння. 25 чэрвеня Стаўка дала згоду на адвод войск на рубеж Мінскага ўкрэпраёна. Але выканаць адыход не ўдалося. Ужо 26 чэрвеня перадавыя атрады 2-й і 3-й нямецкіх танкавых армій прарваліся на подступы да Мінска. Тут яны былі сустрэты паспешна высунутымі на рубеж Мінскага ўкрэпраёна часцямі і злучэннямі 2-га і 44-га стралковых карпусоў 13-й арміі генерала Філатава. Разгарнуўшыся па фронту на 100км, мы на працягу 26-28 чэрвеня стрымлівалі нямецкае наступленне.

У гэтых баях асабліва паказала прыклад стойкасці 100-я стралковая дывізія генерал-маёра Русіянава. У перыяд з 26 па 30 чэрвеня яна стрымлівала наступленне 39-га нямецкага матарызаванага корпуса. Упершыню выкарыстаўшы бутылкі з гаручай сумессю, спаліла 39 танкаў, што было поўнай нечаканасцю для немцаў. Атакаваць рубяжы 100-й дывізіі танкамі немцы больш не рашаліся.

Не абышлося без хібаў і ў гэты адрэзак часу баёў. Стралковая 95-я дывізія, раскватэраваная ў Слуцку, павінна была 26 чэрвеня прыбыць у Мінск і заняць абарону ў Мінскім УРы. На маршы дывізія была атакавана нямецкай авіяцыяй, панесла вялікія страты, вымушана была далучыцца да корпуса генерала Тутарынава, які панёс страты таксама ад авіяцыі. Патрэбна сказаць, што да гэтага часу нямецкая авіяцыя безраздзельна і беспакарана гаспадарыла ў паветры.

Пасля двухднеўных бітваў на подступах да Мінска ўдарным групоўкам 2-й і 3-й нямецкіх танкавых груп удалося на некаторых участках прарваць слабую

# што пачалася вайна



Карта нямецкага наступлення на Мінск у 1941 годзе.


Ліпень 1941 года. Гарыць сялянскі дом на ўскраіне Дзісны.

абарону 13-й арміі. 28 чэрвеня яны злучыліся ў раёне сталіцы Беларусі, перахапіўшы шляхі адыходу большасці дывізій 3-й і 10-й армій. Заходней Мінска, у абшырным раёне, цэнтрам якога была Налібоцкая пушча, аказалася ў акружэнні таксама частка сіл 13-й арміі. Адрэзаныя ад астатніх войск фронта, не маючы цэнтральнага кіравання і сувязі з франтавым камандаваннем, акружаныя войскі каля 300 тысяч чалавек, стараліся прарвацца да галоных сіл фронта, звязваючы і скоўваючы каля 25 дывізій, амаль палову складу нямецкай групы “Цэнтр”, у тым ліку значныя сілы яе танкавай групоўкі. Баі прадаўжаліся да 8 ліпеня. Такім чынам, вораг у ходзе наступацельнай аперацыі змог углубіцца на тэрыторыю Беларусі на глыбіню да 300км. Асноўныя сілы 3-й, 4-й, 10-й і 13-й армій былі знішчаны, або ўзяты ў палон. Застаўшыяся не маглі астанавіць наступленне нямецкіх войск. З’явілася пагроза хуткага выхаду падвіжных танкавых груп да Дняпра і прарыва іх на Смаленскі накірунак. Стаўка прыняла рашэнне для ліквідацыі гэтай пагрозы паскорыць выхад на рубеж Дняпра і верхняга цячэння Заходняй Дзвіны войск другога стратэгічнага эшалона.

Не менш трагічна складвалася абстаноўка і на Паўночна-Заходнім фронце, якім камандаваў генерал-палкоўнік Кузняцоў. Механізаваныя і танкавыя карпусы 4-й нямецкай танкавай групы (арміі), ва ўзаемадзеянні з 16-й і 18-й палявымі арміямі нанеслі масіраваны ўдар пры падтрымцы бомбавых удараў з паветра. Нягледзячы на гераічную абарону войск Чырвонай Арміі, фронт не вытрымаў удары і павінен быў адступаць. 8-я армія генерала Сабеннікава адступала ў паўночным напрамку. 11-я генерала Марозава ў паўночна-ўсходнім напрамку. Пад Вільнюсам пад ударамі танкавых дывізій 4-й танкавай групы і механізаванага корпуса 3-й танкавай групы панеслі вялікія страты і рассечаныя на дзве часткі, прадаўжалі адступленне. Напрамак Каўнас-Даўгаўпілс застаўся без прыкрыцця. 56-ы матарызаваны корпус Манштэйна пачаў хутка прасоўвацца, не сустракаючы на сваім шляху супраціўлення да Заходняй Дзвіны.

Са Стаўкі Вярхоўнага Галоўнакамандавання паступіў загад 8-й і 11-й арміям арганізаваць абарону і закрыць шлях да Заходняй Дзвіны. Ім быў пасланы рэзерв – 5-ы паветрана-дэсантны корпус, не да канца сфарміраваны і 21-ы корпус. Абарона аказалася нетрывалай. 1 ліпеня была здадзена Рыга. Пад ударамі 4-й танкавай групы, 16-й і 18-й палявых армій немцаў нашы войскі пачалі адступаць. 11-я армія адступала ў напрамку на Себеж і Невель.

Між войскамі Паўночна-Заходняга і Заходняга франтоў утварыўся вялікі разрыў, аб якім пісаў раней, які не ахоўваўся нашымі войскамі. А гэта Смаленскі напрамак. Група армій “Цэнтр” атрымала загад вызваліць ад баявых дзеянняў па ліквідацыі акружанай групоўкі нашых войск заходней Мінска і кінуць іх на Смаленскі напрамак і як мага хутчэй выйсці на рубеж Рагачоў-Магілёў-Орша-Віцебск-Полацк. Перагрупаваць войскі і нанесці ўдар на Смаленск, адкрываючы шлях на Маскву.

Напэўна, у гэта час, дзесьці ў пачатку ліпеня, нямецкі танкавы корпус з Лужкоў прыбыў у Дзісну з мэтай фарсіраваць Заходнюю Дзвіну. Нашы 22-я і 19-я арміі сустрэлі іх артылерыйскім агнём. Па словах некаторых старажылаў, адзін з нямецкіх танкаў затануў у Дзісне, але ніхто яго не бачыў. Атрымаўшы адпор і не палезшы ў агонь артылерыі, немцы з Дзісны перадыслакуюць танкавы корпус у раён Лепеля з мэтай нанесці ўдар па Віцебску праз амаль нікім не прыкрытую паласу разрыва паміж франтамі. Вось тады Стаўка і вырашыла як мага хутчэй перакінуць з Маскоўскай ваеннай акругі 5-ы і 7-ы механізаваныя карпусы і не толькі прыкрыць гэты ўчастак фронту, а і нанесці ворагу знішчальны ўдар і перайсці ў контрнаступленне. Тым больш, што сілаў і сродкаў для гэтага было б дастаткова пры граматным іх выкарыстанні.

Корпус – асноўная вайсковая адзінка (злучэнне) для рашэння стратэгічнай задачы разбіць і рассеяць варожую групоўку. Па даваенным Статуце ён павінен мець 36 тысяч чалавек, 1031 танк, 268 бронеаўтамабіляў, 100 палявых гармат, 36 супрацьтанкавых гармат, 36 зенітных гармат, 186 мінамётаў. 5-ы мехкорпус меў 1070 танкаў, 7-ы - 700 танкаў.

Узнікла новая задача: спыніць наступленне на Смаленск і Маскву. Для гэтага ліквідаваць пагрозу прарыву нямецкіх танкавых карпусоў на Віцебска-Аршанскім накірунку. Маршал Цімашэнка, новы камандуючы фронтам аддаў загад камандуючаму 20-й арміяй нанесці контрудар і знішчыць варожую групоўку, што наступала з Лепеля на Віцебск. Зрабіць гэта было даручана 5-му і 7-му механізаваным карпусам. 5-му – наступаць на Сянно, Лепель, 7-му – на Бешанковічы, Лепель. Шэсць дывізій – 4 танкавыя і 2 механізаваныя. Карпусы толькі што прыбылі з Падмаскоўя, добра ўкамплектаваныя, пэўна ж яны былі ў вышэйшага камандавання не з горшых, калі ў адным з іх, 7-м корпусе, служыў сын Сталіна – Якаў Джугашвілі – старшы лёйтэнант, камандзір батарэі гаўбічна-артылерыйскага палка 14-й танкавай дывізіі.

У бой карпусы ўводзілі адразу, без папярэдняй разведкі праціўніка і мясцовасці, амаль без карт. У першы дзень наступленне ішло даволі паспяхова: сходу збіваючы невялікія перадавыя варожыя атрады і разведгрупы, абодва карпусы паглыбіліся ў бок Лепеля на 40-60км. Затым ля рэчкі Чарнагосціца наступленне 7-га корпуса затрымала 7-я танкавая дывізія немцаў генерала фон Функа, якая мела ўсяго 200 танкаў, амаль палова з якіх трафейныя чэшскія лёгкія танкі. Аб праціўніку ў штабе нашай 14-й танкавай дывізіі, якой патрэбна было наступаць на Бешанковічы і ўступіць у бой з 7-й нямецкай танкавай дывізіяй Функа, нават паняцця не мелі.

Нямецкая 7-я танкавая дывізія замацавалася на высокім заходнім беразе Чарнагосціцы, устанавіўшы супрацьтанкавыя гарматы і па бошню закапаўшы свае танкі, зрабіўшы пазіцыю непрыступнай.

Нашай 14-й танкавай дывізіі патрэбна было пераадолець забалочаны ўсходні бераг, які праглядаўся на вялікай адлегласці і мог прастрэльвацца артылерыяй, фарсіраваць забалочаную рачулку, паднімацца на абрывісты правы бераг і станавіцца добрай мішэнню для нямецкіх артылерыстаў і танкістаў, якія прамой наводкай білі па нашых танках з блізкай адлегласці.

Нягледзячы на даклад камандзіра дывізіі палкоўніка Васільева, што прамая атака да поспеху не прывядзе, а будуць вялікія страты, са штаба корпуса паступіў загад “Наступаць!” І раніцай 14-я танкавая дывізія без папярэдняй артпадрыхтоўкі, без прыкрыцця з паветра, дзвюма калонамі рушыла насустрач свайму знішчэнню. Да таго ж, з’явілася нямецкая авіацыя і, нібыта на вучэннях, прыцэльна бамбіла па нашых танках, засеўшых у балоцістай пойме рачулкі. Дывізія панесла вялікія страты.

Няўдалымі аказаліся баявыя дзеянні і іншых дывізій. Сіла дзясяткаў тысяч салдат і камандзіраў, 1770 танкаў, тысячы гармат, дастаўленых з Падмаскоўя на Віцебшчыну не была выкарыстана. Вышэйшае камандаванне не змагло наладзіць арганізацыю войск, узаемадзеянне розных іх відаў. Контрудар праваліўся. За два дні два лепшыя механізаваныя карпусы панеслі вялікія страты ў жывой сіле і матэрыяльнай часці і страцілі сваю боегатоўнасць. Тут жа ў стане кантузіі папаў у плен і сын Сталіна Якаў.

11 ліпеня немцы акупіравалі Віцебск. З 10 ліпеня па 10 верасня прадаўжалася Смаленская бітва. Да пачатку верасня ўся Беларусь была акупіравана германскімі войскамі.

Вельмі любім мы апраўдвацца, што вайна пачалася неспадзявана, і мы не паспелі да яе падрыхтавацца, не хапіла часу. Доля праўды ў гэтым маецца. Але ж у гэтым павінны не тыя, хто насіў у пятліцах кубары і шпалы, а тыя, у каго ў пятліцах было па чатыры ромбы і Зоркі Маршалаў. Яшчэ ў 1936 годзе Тухачэўскі ўносіў прапанову аб арганізацыі танкавых дывізій і карпусоў.

4 чэрвеня 1940 года была ўтворана 1-я танкавая дывізія, якая паказала, што гэта магутнае злучэнне, у якім налічвалася 12 тысяч чалавек і 400 танкаў, здольнае прарваць абарону праціўніка і ўглубіцца хутка ў яго тыл. Поспех нямецкіх танкавых злучэнняў вымусіў наша камандаванне ствараць танкавыя і механізаваныя карпусы. У канцы снежня 1940 года ў Маскве Сталін склікаў нараду са 274 военачальнікаў. Вынікам гэтай нарады стала рашэнне да маючых 9 мехкорпусаў стварыць яшчэ 21. Разумней было б даўкамплектаваць 9 маючых карпусоў.

13 сакавіка 1941 года загадам №013 назначаны намеснікам камандзіра корпуса генерал-маёр Іваноў. Камандзірам корпуса генерал-маёр Ахлысцін з Далёкага Усходу, які прыбыў на месца службы ў Бяла-Падляску ў канцы мая. Новая тэхніка і ўзбраенне не паступала. Як кажуць, скраблі па сусеках 10-й арміі. За тры месяцы да пачатку вайны генерал Іваноў сумеў асабовага складу набраць да 50% штатнага складу, зрабіць з якога танкістаў так і не ўдалося. Што тычыцца матэрыяльнай часткі, то тут горш і быць не магло. З патрэбных па штату 1031 танка корпус меў 212 Т-26, плюс 15 БТ, 10 плаваючых, 21 бронеаўтамабіль і 57 танкаў БТ канструкцыі 1932 года, узброеных кулямётамі. Такім чынам, корпус меў 294 танкі ўстарэлых канструкцый. Хіба мог ён надзейна прыкрыць левы фланг 10-й арміі ад танкавых карпусоў Гудэрыяна? Вось і мелі мы такі пачатак абароны краіны, які прывёў да поўнай акупацыі Беларусі за 2 месяцы.


Ліпень 1941 года. Разбураная вуліца Дзісны.

